

# РУБІКОН

№ 1
2014 г.

Дадатак да інфармацыйнага бюлетэня “Весткі й Паведамленьні”

## Турма дуалізму

**Віталь ВОРАНАЎ**

*І фанатыкі, і бязбожнікі, – адной маткі дзеці – крайнасьці... Няма жыцьця ў крайнасьці... Нішто не жывець, не расьцець у вагні, нішто не жывець, не расьцець у марозе. Толькі між агнём і марозам усё расьцець, усё цьвіцець, разьвіваецца, красуецца.*

***Язэп ДРАЗДОВІЧ***

Апалягеты літаратурнага постмадэрнізму гадамі даводзілі і ўрэшце здаецца, прынамсі да большасьці, давялі, што мова ня можа несьці ніякіх сэнсаў. Мова і сапраўды сталася вельмі адарваная ад сэнсу, але ці дэканструкцыянізм не быў усяго толькі пасьпяховай спробай праўдзівай канстатацыі хлусьлівага факту, ці інакш кажучы перавядзеньнем срэлак з сапраўднай прычыны на надуманую?

Ці вінаваты Рэнэ Дэкарт, што аддзяліў душу ад цела? Наўрад ці. Дэкарт прызнаваў: „Я не магу ўявіць нейкае палавіны маіх магчымасьцяў: адчуваць, хацець, цяміць... бо няма частак у маім духу, але ўвесь мой дух адчувае, увесь хоча, увесь разважае...” Але магчыма Дэкарт як Нобэль, не ўласьнік сваіх вынаходніцтваў. Француская рэвалюцыя пастаўленую праблему вырашала даслоўна, шляхам аддзяленьня галавы ад цела, што ў сваю чаргу адгукнулася цэлай сэрыяй пачварных рэхаў у жудасным 20 стагодзьдзі? Зрэшты як і Нобэлеў дынаміт. Большасьць скажа, што такі тэзіс занадта радыкальны, але ягоная радыкальнасьць у параўнаньні з неперараўзыйдзеным тэрорам дуалізму падаецца ўсяго толькі бясшкоднай канстатацыяй.

Дабро і зло, праўда і хлусьня, жыцьцё і сьмерць, белае і чорнае вядома існавалі і да Дэкарта, але як жа усё раптоўна памянялася, калі пункт цяжару быў перанесены з полюсаў у цэнтар, з мэрыдыянаў на экватар, з поўначы і поўдня на захад і ўсход. Трохі пазьней, на зломе 19 і 20 стагодзьдзяў, калі чалавецтва пачынала, будзем спадзявацца не канчаткова, разьвітацца з нармальнасьцю на карысьць ненармальнасьці, Фердынанду дэ Сасюру заставалася толькі дааформіць зьнішчальны дуалізм у бінарныя апазыцыі і запусьціць гэты механізм у свабоднае плаваньне. У 20 стагодзьдзі, веку дэмакратыі, палярнасьць сталася асновай ня толькі тэорыі культуры, філязофіі і мовы, але таксама спрычынілася да выкарыстаньня ва ўсіх гэтых сфэрах старога, але удаканаленага, лацінскага divide et impera – дзялі і ўладар.

Найбольш у мастацтве падмены паняткаў адзначыўся менавіта бальшавізм. Называньне рэчаў не сваімі імёнамі, вынаходніцтва новых тэрмінаў, а часам поўная замена паняткаў месцамі, былі галоўнымі мэханізмамі гэтай сыстэмы. Савецкі дысідэнт Эдвард Кузьняцоў заўважыў, што сацыялізм патрабуе ад чалавека зусім няшмат – усяго толькі палюбіць тое, што нармальны чалавек ненавідзіць, і ўзьненавідзіць тое, што нармальны чалавек любіць. Зьдзіўляе не столькі бальшавіцкае авалоданьне сродкамі навамовы, колькі ўменьне з дапамогай бінарнасьці адмежавацца ад усяго, нават ад сваёй першаасновы. Такім чынам бальшавікі і іх сёньняшнія пасьлядоўнікі, спрабуюць прывучыць нас да таго што бальшавізм і камунізм, камунізм і сацыялізм, сацыялізм і марксізм, марксізм і культурніцкі марксізм, культурніцкі марксізм і новагістарыцызм, новагістарыцызм і культурніцкі штудыі гэта ўсё розныя рэчы, у той час як усе з вышэй названых гэта ўсяго толькі сынонімы адной і той самай зьявы. Зьдзіўляе лоўкасьць бальшавіцкіх ідэёлягаў ва ўмелым, амаль фокусьніцкім, адмежаваньні ад нацыянал-сацыялістычнай Нямеччыны, адзінай пасапраўднаму братэрскай краіны. А ў сапраўднасьці Трэці Рэйх адрозьніваўся ад СССР ніякім не італьянскім фашызмам і нават не інтэрнацыяналізмам (які ў СССР пагас на першай стадыі станаўленьня), а толькі і выключна пануючай нацыяй, што ўрэшце і прывяло блізьнячыя сыстэмы да збройнага супрацьстаяньня.

Пасьля другой сусьветнай вайны стала цалкам зразумела, што не існуе такіх паняткаў, якіх немагчыма было б падмяніць. Сёньня мы ўжо не ў стане **адрозьніць** мадэрнізм у філязофіі ад мадэрнізму ў літаратуры, Крамля ад рускага народу, правоў чалавека ад дыктату меншыняў, лібэралізму ад лібэртарыянізму, постмадэрновага дэканструкцыянізму ад Гегелеўскага постмадэрнізму, правых (якія называюць сябе левымі) ад левых (якія называюць сябе правымі), быццам бы капіталістычнага ЗША ад нібыта камуністычнага Кітаю, свабоды слова ад паліткарэктнасьці, а горкай праўды ад мовы нянавісьці. З другога боку, мы не ўмеем заўважыць **цэласную еднасьць** формы і зьместу, Маркса і Фройда, эраса і танатаса, Парменіда і Геракліта, урэшце глябалізацыі і мультыгенацыду культураў.

Не разумеючы розьніцы і адзінства паміж вышэй згаданымі, нашыя высілкі па давядзеньні простых нюансаў паміж адноснай бясшкоднасьцю рускай мовы ў побыце і адназначнай фатальнасьцю рускай мовы ў кантэксьце беларускай літаратуры, „размаўляньнем” па-беларуску і „думаньнем” па-беларуску, урэшце, народам і нацыяй, і шэрагам іншых пытаньняў штодзённага, беларускага дыскурсу, зьяўляецца ўсяго толькі практыкаваньнем па дыялектыцы. Без разуменьня, што мы жывем у сьвеце ілюзій насаджаных свабодным і несвабоднымі мэдыямі, без усьведамленьня, што наша мова ня ёсьць наша мова, незалежна ад таго ці размаўляем мы па-беларуску, руску ці па-ангельску, наша змаганьне за лепшую будучыню зьяўляецца спробай плаваньня ў дрыгве. У выніку усе нашыя памкненьні заканчваюцца на боўтаньні ў ідэалягічных тропах і філязафічна-палітычных клішэ. Праводзячы час на банальных спрэчках мы марнуем свой патэнцыял, замест праектаваньня будучыні капаемся ў мінулым, спрабуем зразумець сучаснае праз прошлае, замест таго, каб урэшце, у духу Ніцшэ, угледзіць прошлае ў сучасным...

Хоць выйсьці з гэтага заганнага кола здаецца амаль немагчыма, то выхад усё ж такі ёсьць і нават не адзін, а цэлых тры. Першае – мы можам **навучыцца чытаць навамову наадварот**, і заўважыць, што другасная падмена паняткаў амаль заўжды прыводзіць нас на кругі свая. Гэты спосаб аднак не самы надзейны, бо не ўлічвае магчымасьці блефу. Другое – мы можам вярнуцца да карэньняў, да часу калі дабро было нашым дабром, а зло было злом у нашым разуменьні – **„Бога хвалі, але і чорта не гняві”**. Выйсьце прывабнае, але перапоўненае перашкодамі. Трэцяе – магчыма найбольш амбіцыёзна, але і найбольш трывала – спрабаваць пераназваць усё **сваімі новымі імёнамі**. Як казаў Канфуцый – каб зьмяніць краіну трэба зьмяніць паняткі. Зьмена гэтая павінна, вядома, адбывацца як з усьведамленьнем першакрыніцы, так і з улікам зробленых фальсыфікацый.

* * *

Пачынаючы з гэтага нумару, у дадатак да “Вестак й Паведамленьняў” будзе выходзіць нерэгулярнік пад назвай “**Рубікон**”. Працягваючы справу „Органу Беларускага Антыбальшавіцкага Фронту”, мы сымбалічна ўзнаўляем працу пасьляваеннага часапіса “Змаганьне” і гэтым самым пераймаем эстафэту барацьбы за непадзельную цэласнасьць моцна параненага **індывідуума**... Сьвядомыя бяскрайняга маштабу праблемы, але і не пазбаўленыя пачуцьця гумару, заклікаем нашых будучых чытачоў, аднадумцаў і прыхільнікаў, узьняць у новым годзе тост за нечаканы посьпех нашай безнадзейнай справы! ✠

# Амэрыка бязь межаў

*Віталь ЗАЙКА*

Калі я навучаўся па праграме магістар-ступені па бібліятэчных ды інфармацыйных навуках, дык па адным з курсаў трэба было абраць нейкую ўстанову і наведаць яе, азнаёміцца з праграмаю справаводзтва і архіваў. Выпадкова тады гэтаю установаю стала для мяне Фундацыя Форда, дабрачынная арганізацыя з штаб-кватэраю, што займае вялізны гмах у Нью-Ёрку на 42-й вуліцы. Тады запомнілася, як складана было патрапіць усярэдзіну – узгадняць візыт, чакаць пакуль адказная асоба сустрэне пры ўваходзе, паказваць свой дакумэнт (абавязкова з фатаздымкам!) , каб атрымаць часовы пропуск-налепку на наведаньне арганізацыі. Чаму я зьвяртаю ўвагу на гэтыя рэчы, чытач неўзабаве даведаецца.

Як і кожная іншая краіна, Злучаныя Штаты Амэрыкі маюць, па вызначэньні, сувэрэнітэт над тэрыторыяй, што знаходзіцца ў яйных межах. Гэты сувэрэнітэт і межы краіны ахоўваюцца, прынамсі намінальна, на паперы, службаю памежнага кантролю і берагавой аховы краіны. Падмацаваны гэты сувэрэнітэт арміяй ЗША, ваенна-паветранымі й ваенна-марскімі сіламі, Фэдэральным Бюро Разглядаў (фэдэральнай паліцыяй), а таксама мясцовай паліцыяй, судамі, турэмнай сыстэмай і г.д. Здаецца, усё выглядае слушна – папярэднікі пакінулі сёнешнім амэрыканцам сыстэму, якая, горай ці лепей, выконвала сотні гадоў свае функцыі. Я ня мог і ўявіць сабе тады, калі наведваў праз належныя працэдуры кантролю Фундацыю Форда, а потым напісаў па выніках некалькіх візытаў рэфэрат-справаздачу (ацэнку атрымаў, дарэчы, A+), што гэтая самая фундацыя, у якую ня так проста патрапіць, перасекчы межы яе маёмасьці – зьяўляецца адным з наймагутнейшых асяродкаў па размываньні й разбурэньні суверэнітэту ЗША, імкнецца фактычна скасаваць дзяржаўныя межы краіны. І Фундацыя гэтая, што варочае сотнямі мільёнаў даляраў, не адзіная ў сваім імкненьні паставіць пад сумніў сувэрэнітэт ЗША, прыраўняць нелегальных імігрантаў да грамадзянаў ЗША ва ўсіх сфэрах. Поплеч з Фундацыяй Форда на ніве зьнішчэньня сувэрэнітэту сваёй краіны працуюць такія кіты ў галіне дабрадзейства, як Фундацыя Макартура, сорасаўскі Інстытут Адкрытага Грамадства, Фундацыя Ракфэлера ды шэраг іншых.

Як вядома, цэльнасьць і недатыкальнасьць дзяржаўных межаў – ёсьць адною з падвалінаў сувэрэнітэту кожнай краіны, і яна выконвае кардынальную ролю ў вызначэньні тоеснасьці нацыі й краіны, у яе жыцьці, бясьпецы, будучыні. Тое, за што выступаюць безадказныя і радыкалізаваныя правадыры фондаў і фундацыяў, авуарамі якіх ёсьць мільярды не абкладзеных падаткамі даляраў, зрабіла б, і ўжо робіць, мяжу ЗША ўмоўнай лініяй на мапе, перасекчы якую можа па сваёй прыхамаці любы жыхар плянэты, а хіба й галяктыкі ды ўсяго сусьвету.

Небясьпечная для амэрыканскага сувэрэнітэту тэндэнцыя па зьмяненьні палітыкі, а нават і ўсёй філязофіі ў галіне іміграцыі, пачалася ў 1960-я гады з агульнай радыкалізацыяй пэўных, і далёка ня самых гаротных, слаёў грамадзтва. Пад уплывам руху за грамадзянскія правы і з удзелам лібэральных юрыстаў і заканадаўцаў у 1965 годзе былі скасаваныя квоты на іміграцыю з краінаў трэцяга сьвету, што радыкальна зьмяніла склад легальнай іміграцыі й паўплывала на іміграцыю нелегальную. Паўстаў радыкальны рух за "адкрытыя межы". Заўсёды існаваўшая нелегальная іміграцыя праз пратэрмінаватыя візы і праз Мэксіку стала падвышацца ў арытмэтычнай прагрэсіі. Затым у 1986 годзе нелегалам была дараваная амністыя (т. зв. Акт аб Іміграцыйнай Рэформе й Кантролі-86).

Замест кантролю, гэтая мера прывяла да падвышэньня нелегальнай іміграцыі ўжо ў геамэтрычнай прагрэсіі, з рэзкім паскарэньнем. Не адставала і легальная іміграцыя, кантроль над якою па сваёй непрадуманасьці й адвольнасьці мала чым розьніцца па выніках ад браку кантролю над нелегальнай іміграцыяй. За гады, што прайшлі пасьля апошняй іміграцыйнай амністыі і да цяперашняга памкненьня адміністрацыі Абамы правесьці новую амністыю, колькасьць нелегальных імігрантаў, якіх у агульнапрынятых мэдыях сарамліва называюць "недакумэнтаванымі", вырасла ў 10 разоў, з 2-2,5 млн. у 1985 годзе да 20-25 млн. сёньня. Раптоўна зьявіліся цэлыя масіўныя групы кампактна пражываючых замежнікаў, што шчыра і адкрыта праклямуюць на першым месцы ляяльнасьць ня Злучаным Штатам, а сваёй этнічнай групе ці рэлігіі. Пры гэтым адсотак традыцыйна дамінуючай этнічнай групы ЗША, белых негішпанскіх амэрыканцаў, зьменшыўся з 80% да 63%. Прадказваецца, што праз некалькі дзесяцігодзьдзяў гэтая этнічная група, што сфармавала і вызначыла палітычную і эканамічную сыстэму, дзяржаўны лад і культуру краіны, будзе складаць менш паловы насельніцтва краіны. Ня выключана, што этнічныя групы, якія дасюль не змаглі або не пажадалі інтэгравацца ў амэрыканскае грамадзтва, простаю сілаю сваёй колькасьці змогуць перайначыць усе тыя падваліны, якія заклалі айцы-заснавальнікі ЗША. Сёньня няясна, якія вынікі можа прынесьці ўжо ў гэтым стагодзьдзі існуючая дэмаграфічная тэндэнцыя, але Фундацыя Форда і яе фундацыі-калегі нястомна, не шкадучы сродкаў працуюць на хуткае набліжэньне гэтай няпэўнай будучыні. Яны, безумоўна, перакананыя – вынікам іхных захадаў будзе ня што іншае, як расавая гармонія, рай этнасаў, роўнасьць і сяброўства. Рэальна гэта можа стаць нечым супрацьлеглым.

Шлях да сваёй прыгожай мары Фундацыя Форда, створаная ў 1936 годзе Эдсэлам, сынам славутага Гэнры Форда, пачала ў 1950-я гады, калі паступова аддзялілася ад кампаніі Форд-Мотар і стала займацца гуманітарнымі праектамі, сярод якіх было стварэньне грамадзкага тэлебачаньня ПіБіЭс, дэцэнтралізацыя грамадзкіх школаў, падтрымка такіх аўтараў як Дж. Болдўін, Флэнары О'Конар, Э. Э. Камінз, Сол Бэлаў, Маргарэт Мід. І гэтая падтрымка было нядрэнная.

Пад кіраўніцтвам лібэрала-дысыдэнта МакДжорджа Банды фундацыя стала падтрымліваць этнічныя і лев험радыкальныя арганізацыі, такія як Ліга Злучаных Лацінаамэрыканскіх Грамадзянаў (LULAC, ЛУЛАК), Нацыянальная Асацыяцыя Спрыяньня Прагрэсу Каляровага Насельніцтва (NAACP, НАСПКН) і Амэрыканскі Зьвяз Грамадзянскіх Свабодаў (ACLU, АЦЛУ). Прычым, калі ў пачатку 1960-х гг. ЛУЛАК была арганізацыяй амэрыканскіх грамадзянаў-лацінаамэрыканцаў сярэдняе клясы, што падтрымлівала асіміляцыю ў амэрыканскае грамадзтва і ангельскую мову, як адзіную нацыянальную, дык цяпер яна не прытрымліваецца ніводнага з гэтых пунктаў і адкрыта патрабуе легалізацыі нелегальных імігрантаў й дзяржаўнага статусу для гішпанскай мовы. У 1967 годзе на грошы Фундацыі Форда была створаная Мэксіканска-Амэрыканская Фундацыя Легальнай Абароны і Адукацыі (МАЛДЭФ). Мэтаю яе дэкляравалася юрыдычная абарона мэксіканцаў у ЗША, але МАЛДЭФ адразу зрабілася начыньнем палітычнага і этнічнага актывізму, стала кансультаваць мэксіканцаў, як пазьбегчы прызыву моладзі ў войска, як перакройваць адукацыйныя і выбарчыая акругі, каб лягчэй абіраць сваіх сябраў у прадстаўнічыя ворганы. У 1973 г. штаб-кватэра МАЛДЭФ перанеслася з Сан-Антоніа (Тэхас) у Вашынгтон, дзе зручней лябіяваць інтарэсы гішпанамоўнай меншасьці. Асноўнымі напрамкамі дзейнасьці, шчодра фінансаванымі Фундацыяй Форда, сталі дзьвухмоўная адукацыя, барацьба супраць дэпартацыяў нелегальных імігрантаў і абарона іхных уяўных правоў. З часам МАЛДЭФ, дзякуючы грошам Форда, стала выкручваць рукі мясцовым управам адукацыі, навязваючы праз пасьпяховыя судовыя справы свае праграмы, сваіх прадстаўнікоў і сваю стратэгію адукацыі. Далей – болей: пад уплывам МАЛДЭФу і падобных структураў, як,

напрыклад, Нацыянальная Рада Ла-Раса (НРЛР), НААКП – дзяцей нелегалаў сталі запісваць у школы, самым нелегалам – даваць сацыяльную дапамогу. Шэраг штатаў стаў дазваляць нелегалам атрымліваць картку правоў кіроўцы, а таксама прымаць, як легальны дакумэнт, мэксіканскія "матрыкулы"-карткі, выдадзеныя консулятамі Мэксікі ў ЗША. Гэтая дзейнасьць была скіраваная на ліквідаваньне розьніцы паміж легальнымі рэзыдэнтамі ЗША і нелегаламі. У выніку стымулы для незаконныга пранікненьня ў краіну значна павялічыліся, адпаведна павялічылася і колькасьць нелегалаў. Пры неадэкватнай і слаба фінансаванай абароне межаў трапіць у адзіную звышдзяржаву сьвету стала досыць проста, значна прасьцей, чым у якую Ўганду або, не раўнуючы, у КНДР.

Асабліва шумным прапанэнтам "адкрытых межаў" стаў АЦЛУ. Мясцовыя аддзелы АЦЛУ існуюць амаль ва ўсіх штатах, ажыцьцяўляюць маніторынг парушэньняў правоў "добрых" этнічных групаў. То бок усіх, акрамя белых амэрыканцаў. Стараньнямі АЦЛУ былі спыненыя зьняцьце адбіткаў пальцаў незаконных імігрантаў і перапыненае супрацоўніцтва фэдэральных і мясцовых праваахоўных структураў. АДЦЛУ нават супраць дэпартацыі імігрантаў, зьдзейсьніўшых злачынствы на тэрыторыі ЗША. Гэтая арганізацыя робіць усё, каб застымуляваць схему "якарных дзяцей" – калі нелегалы нараджаюць у ЗША дзіця, і потым самыя легалізуюцца на падставе статусу дзіцяці, як аўтаматычнага амэрыканскага грамадзяніна. Дзіця-"якар" трымае бацькоў, а пасьля дапамагае перавезьці дзядулю з бабуляй, дзядзьку зь цёткаю, кузынай і тады ўвесь клян.

Маючы каманды дасьведчаных юрыстаў, добра аплочаных грашыма Форда ды іншых фундацыяў, МАЛДЭФ, АЦЛУ, НАСПКН, Ла-Раса звычайна перамагаюць у справах супраць прыватных асобаў, дзяржструктураў і мясцовых органаў улады, што часьцяком ня маюць досьведу судовых хаданьняў у справах, зьвязаных з расай, рэлігіяй, этнічнасьцю, і юрысты ў якіх ніжэйшага рангу па прафэсіяналізме, малааплочваныя, пасыўныя і фармальна выконваючыя свае функцыі.

На дадзеным этапе ўсе гэтыя арганізацыі, якія сьмела можна назваць падступнымі і антыамэрыканскімі, кіруюць сваю ўвагу на т.зв. "іміграцыйную рэформу" – змаганьне за ліквідацыю апошніх перашкодаў на шляху да зьнішчэньня сувэрэнітэту ЗША над сваёй тэрыторыяй і сваімі дзяржаўнымі межамі. Праграма мінімум для эгаістычных і, не пабаюся гэтага слова, расісцкіх этнакратаў з гішпанскіх ды чорных арганізацыяў – выбарчыя правы для нелегалаў, паскораны шлях да поўнай легалізацыі, замацаваньне адкрытых межаў, праз якія бескантрольна мог бы праходзіць рух вялікіх групаў насельніцтва, натуральна ў асноўным неэўрапейскага паходжаньня. Праграма максімум гэтых этнакратаў разам з кіраўнікамі Дэмакратычнай партыі ЗША – незваротна зьмяніць дэмаграфічнае становішча ў краіне праз імпарт электарату Дэмпартыі, ягоную аўтаматчыную легалізацыю, стварэньне ўмоваў, калі чыста дэмаграфічна перамога Рэспубліканскай або якой іншай, акрамя Дэмакратычнай, партыі будзе проста немагчымая. Пры сталым прытоку новага неэўрапэйскага насельніцтва, пры недасканалай сёнешняй сыстэме грамадзкіх школаў, пры індактрынуючых лявацкіх школьных праграмах, пры што раз мацнейшым антыамэрыканізме ў школьных падручніках, пры растучай пагардзе да белага насельніцтва (і самапагардзе ягоных прадстаўнікоў), пры прапагандзе змаганьня сацыяльных клясаў Амэрыка, якую бачылі айцы-заснавальнікі ЗША, і якую збудавалі па іхных плянах пакаленьні імігрантаў з Эўропы – перастане існаваць. Што прыйдзе на ейнае месца – ня ведае ніхто.

Гэта можна называць алярмізмам, можна – паранояй, фальшывым прароцтвам або проста трызьненьнем, але Амэрыка бязь межаў мае рэальны шанец стаць не краінай, у якую будуць імкнуцца патрапіць, а наадварот – краінай, зь якой трэба будзе ўцякаць. ✠

# Тытулаваныя

*Ці варта называць тыранаў іхнымі гучнымі тытуламі?*

***Я. ЗАБАЛІНСКІ***

Як правіла, дыктатары прагнуць быць прызнанымі легітымнымі дэмакратычна абранымі кіраўнікамі сьвету. Нядаўна прачытаў гісторыю аб тым, як на сэсіі Генэральнай асамблеіі ААН у 2002 годзе тагачасны кіраўнік Арганізацыі Вызваленьня Палестыны Ясер Арафат шчаміўся як мага бліжэй падыйсьці да прэзыдэнта ЗША Джорджа Буша, каб зрабіць зь ім фатаздымак. А дзярсакратар Колін Паўэл літаральна выконваў ролю шчыта, адпіхваючы Арафата, калі Буш ішоў па калідоры Генэральнай асамблеі.

Летась прэзыдэнт Злучаных Штатаў Барак Абама, выступаючы ў ААН, назваў галоўнага аяталу Ірану Алі Хаменеі "вярхоўным лідэрам". Ці было неабходна называць яго такім тытулам? Тыя, хто кантралююць Іран, могуць клікаць яго так, але ці варта дэмакратычным кіраўнкам у сьвеце так рабіць?

Пасылаючы сваё віншаваньне з Наўрузам (Наўруз – пэрсіцкі Новы год) Абама слаў яго "народу і лідэрам" Ірана. Ён таксама назваў краіну "Ісламскай Рэспублікай Іран", як яе называюць іранскія мулы.

Джон Болтан, амбасадар ЗША ў ААН пры Джорджу Бушумалодшым даў такое тлумачэньне. Іран называюць "Ісламскай Рэспублікай", калі хочуць падлізацца да кіраўніцтва гэтай краіны. Што піхае Абаму на такія выказваньні? Болтан лічыць, што дыпляматыя і кіраваньне краінай часта патрабуюць вытрымкі, прытворства і абману. У пэўных умовах можа і можна назваць Алі Хаменеі "вярхоўным лідэрам". Калі гэта дапаможа ўтрымаць Іран ад стварэньня ядзернай зброі, то хай называе. Але калі гэта незаслужаная пашана, то гэта зьнявага для нас усіх. Бо вядома, іранскі рэжым адзін з тых, што карае дзяўчат закідваньнем камянямі, калі яны "саграшылі" стаўшы ахвярамі групавога згвалтаваньня.

Джон Болтан таксама зьвяртае ўвагу, што ў ААН урад можа называць краіну, што ён рэпрэзэнтуе, як заўгодна. Яны атрымаюць такое імя на таблічцы ў залі паседжаньняў, якое захочуць. Але ўрады краінаў сьвету не абавязаныя прытрымлівацца гэтых правілаў. Ён сам, напрыклад, ніколі не казаў у ААН "М'янмар", а толькі "Бірма". Нагадаю, што пасьля захопу ўлады ў Бірме ў 1980-я гады мясцовая хунта зьмяніла назву краіны з "Бірма" на "М'янмар". Дэмакратычная апазыцыя працягвала называць сваю краіну Бірмай. Урад ЗША разам зь імі кажа "Бірма". Праўда апошнім часам можна ўжо пачуць і назву "М'янмар". Яна ўжываецца ў якасьці заахвочваньня хунты да далейшых дэмакратычных зьменаў, якія тая пачала рабіць.

Хочацца ўзгадаць тут упартае называньне расейцамі Беларусі Белоруссией, а ў ангельскім варыянце яны аддаюць перавагу Belorussia, а не Belarus. У іх гэта нясе адценьне пагарды да краіны і народу.

Дыктатары і тыраны па ўсім сьвеце прагнуць высокіх тытулаў і прызнаньня, але дэмакратыі маюць для іх свае назвы і звароты. А калі часам і ўжываюць дыктатарскія саманазовы, то толькі ў якасьці заахвочваньня да лібэрызацыі і дэмакратычных пераменаў. Тут можна ўзгадаць і Уга Чавэса з Вэнэсуэлы, якога называлі "прэзыдэнцкім дыктатарам" ці "strongman".

Дарэчы іранскі "вярхоўны лідэр" не адзіны ў сьвеце. Такі ж самы тытул мае паўночна-карэйскі дыктатар Кім Джон-ун. І я думаю, што ўрадоўцы ЗША не зьвярталіся да яго так, бо ніякімі пераменамі ў Паўночнай Карэі і ня пахне.

Лібійскі дыктатар Муамар Каддафі хоць і заставаўся ўсё жыцьцё ў званьні вайсковага палкоўніка, але меў іншыя гучныя тытулы: "Брацкі лідэр і правадыр Лібійскай рэвалюцыі" і "Правадыр Вялікай рэвалюцыі 1-га верасьня Сацыялістычнай Народнай Лібійскай Арабскай Джамахірыі".

Даўнавата не зьяўляліся ў сьвеце імпэратары. Апошняга скінулі ў 1979 годзе ў Цэнтральнай Афрыцы. А ў Этыёпіі ад

1930 да 1974 году правіў імпэратар Гайле Селасіе (Haile Selassie), поўны тытул якога быў “Яго Імпэратарская Высокасьць, Заваёўваючы Леў Племені Іўды, Кароль Каралёў Этыёпіі, Выбраньнік Бога”.

Каб паказаць свае адносіны да пэўных кіраўнікоў, можна пазьбягаць тытулаў увогуле і казаць проста “спадар”. У Саўдаўскай Арабіі існуе незьлічоная колькасьць насьледнікаў караля. Высокапастаўлены прадстаўнік мінулага рэспубліканскага Белага дому, каб не заахвочваць усю гэтую саўдаўскую сыстэму, вырашыў не называць усіх гэтых людзей “прынцамі” і “іхнымі высокасьцямі”. Калі яму прадставілі саўдаўскага міністра замежных справаў, ён толькі сказаў: “Добры дзень, спадар міністар! Вельмі рады Вас бачыць.” Амэрыканскі прэзыдэнт Ліндан Джонсан мог няправільна вымаўляць імёны тых лідэраў, што яму не падабаліся. Так сама рабіў і Джордж Буш-бацька, называючы Садама Гусэйна няйначай як “Садом”.

Усё гэта я вяду да таго, што называючы ўзурпатараў улады імёнамі, якія ім падабаюцца, мы падвышаем іхнюю легітымнасьць. І тут трэба быць вельмі ўважлівымі.

Як тут не ўзгадаць Аляксандра Лукашэнку, які прагне быць прызнаным у сьвеце дэмакратычным прэзыдэнтам Беларусі. Калі яго называюць “прэзыдэнтам” замежныя дыпляматы, палітыкі ці вядучыя праграмаў навінаў, гэта яшчэ неяк можна зразумець і растлумачыць. Па сваёй наіўнасьці яны, магчыма, думаюць, што такім чынам дыктатара можна ўлагодзіць і падштурхнуць да дэмакратычных пераменаў у Беларусі. Але калі так на яго кажуць прадстаўнікі т. зв. апазыцыі і журналісты апазыцыйных мэдыяў, то апраўданьняў тут няма. Гэтыя дзеячы ня могуць быць у апазыцыі да рэжыму, калі дапамагаюць легітымацыі дыктатара.

Безумоўна, вельмі цяжка сфармуляваць нейкія цьвёрдыя правілы, як трэба называць дыктатараў і тыранаў. Дэмакратычныя дзяржаўныя дзеячы павінны, відаць, кіравацца сваімі інтуіцыяй і пастаўленымі мэтамі. Але яны павінны заўсёды памятаць – ніякіх незаслужаных почасьцяў, ніякіх тытулаў за так.

А нам, беларусам, у выбары тытулаў для Лукашэнкі трэба найперш кіравацца сваім сумленьнем і ніколі не забываць забітых і пакалечаных ахвяраў рэжыму, лік якім ідзе ўжо на тысячы. ⌘

# Украінскі “epic split”

***Віталь ВОРАНАЎ***

Апошнім часам пра Украіну гаварылася нямала. Паўднёвая суседка ізноў змагла зьдзівіць ня толькі нас, але фактычна ўвесь сьвет. Аднак не гледзячы на станоўчыя рысы, якія праявіліся падчас Эўрамайдану, разам зь ім на паверхню павылазілі ўсё тыя самыя старыя, не вылечаныя балячкі. Апрача украінскай вальналюбівасьці, народнай рашучасьці, нацыяналістычных і незалежніцкіх настрояў, Украіна паўстала перад сьветам як краіна, якая ўсё яшчэ моцна разарваная на заходня-паўночную і ўсходня-паўднёвую часткі, краіна ў якой палітычныя хваляваньні ўшчыльную зьвязаныя з алігархічнымі інтарасамі і грашовымі ўліваньнямі, краіну ў якой адроджаная анархія сталася неад’емнай часткай палітычнага краявіду. Украінцы ізноў выйшлі на Майдан, нават не зважаючы на татальную паразу пераможцаў памаранчавай рэвалюцыі і іхную няздольнасьць правядзеньня грунтоўных рэформ, хоць бы ў сфэры ўсёпаглынаючай украінскай карумпаванасьці грамадзкага жыцьця. Амаль дзесяць гадоў таму апазыцыя сталася вярхушкай, а ўсё астатняе збольшага па Орўэлу...



Кіеў

У Эўрамайдана ёсьць аднак некалькі цікавых адрозьненьняў ад папярэдняга Майдану, якое трэба ўзяць на заметку і нам беларусам. Што ўражвае больш за ўсё, дык гэта амаль поўнае дэзінфармаванасьць украінцаў наконт палітычна-сацыяльнай сытуацыі ў самім Эўрасаюзе. І гэта пры тым, што маса украінцаў бывае, падарожнічае, працуе, або стала жыве ў розных краінах Эўрасаюзу, а дакладней у Эўраштатах, якія да яго прыналежаць. Ствараецца неад’емнае ўражаньне, што ў сваіх памненьнях украінцы арыентуюцца не на сёньняшні ЭўраССР, а на Эўразьвяз са зломy стагодзьдзяў, ну ці хоць бы на той, да ўваходжаньня ў жыцьцё Лісабонскай дамовы, якая дэ факта скасавала незалежнасьць паасобных краінаў і на афіцыйным узроўні пераўтварыла слушную ідэю эўрапейскай інтэграцыі ў сацыялістычна-бюракратычную ўтопію. Тым больш, асабліва для кожнага хто ведае Эўрасаюз з нутры, сьмешнымі гучаць прамовы пра цывілізацыйны выбар, дэмакратычныя вартасьці, правы чалавека і ўвесь астатні, яшчэ не цалкам дэактуалізаваны, але ўжо добра стузаны і зашмальцаваны вясёлкавы букет.

Сказанае найлепш сымбалізуюць фатаздымкі, амаль як з папулярнай у свой час сацсет-сэрыі “Вось як нас уяўляюць іншыя, а вось як мы бачым самі сябе”. Украінцы імкнуцца да чысьціні, даслоўнай і мэтафарычнай, да празрыстасьці грамадзка-палітычна-эканамічнага жыцьця, але з-за неўсьведамленьня поўнай карцінкі адклікаюцца да сымболікі, якая, хоць і не зусім каб даўно, але ўжо састарэла. У сучасным сьвеце год гэта шмат, а чатыры гады гэта ўжо эпоха. Вось гэта нам і трэба браць на заметку ў першую чаргу.


Лёндан

Баюся, што слушныя памкненьні ўкраінцаў у чарговы раз могуць разьбіцца аб сьцяну бязьлітаснай рэчаіснасьці. Горкі досьвед замены сьвіньняў пры карыце нашы суседзі засвоілі правільна, але надзеі на вырашэньне ўнутраных праблемаў з дапамогай замены аднаго пана на другога могуць скончыцца для іх як ў беларускай прыказцы: Ад пекла адарваўся й да раю не дастаўся.

Іншая вельмі цікавая тэндэнцыя заўважная на Ўкраіне – гэта відавочнае, хоць часам і па сінусоіднай, перасоўваньне ад дэмакратыі да аўтарытарызму, такое своеасаблівае вяртаньне ў Эўропу міжваеннага пэрыяду, што па іроніі лёсу, ставіць Беларусь у прагрэсіўным авангардзе. А гэта ўжо тэма на іншы раз. ⌘